*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года. № 1 (489) 3 СТУДЗЕНЯ 2001 г.

# З Калядамі вас, дарагія беларусы!





*Грамадскае аб'яднанне*
***"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"***
*220005, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 213-43-52, 284-85-11,*
*разлікоВы рахунак № 3015212330014 у Гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка" код 764*

**"27" снежня 2000 г. № 804**

**Спадару У. Ярмошыну**
**Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь**
**220010, г. Мінск, пл. Незалежнасці, Дом Ураду**

**Паважаны спадар Ярмошын!**

У красавіку 2000 года на разгляд Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь унесены праект Закону Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь".

Дадзены праект супярэчыць артыкулу 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які гарантуе грамадзянам нашай краіны свабоду выбару мовы выхавання і навучання. Такім чынам ён груба парушае правы беларускамоўнага насельніцтва Беларусі.

Па нашых звестках разгляд згаданага праекту Закону запланаваны на студзень 2001 года. Просім Вас тэрмінова прыняць адпаведныя захады па прадухіленні зацвярджэння заканадаўчага акту, неадпавядаючага Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

З павагай

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Трусаў.**

**"27" снежня 2000 г. № 805**

**Спадару Васілевічу Р. А.**
**Старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь**
**220016, г. Мінск, вул. К.Маркса, 32**

**Паважаны спадар Васілевіч!**

У красавіку 2000 года на разгляд Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь унесены праект Закону Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь".

Дадзены праект супярэчыць артыкулу 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які гарантуе грамадзянам нашай краіны свабоду выбару мовы выхавання і навучання. Такім чынам ён груба парушае правы беларускамоўнага насельніцтва Беларусі.

Па нашых звестках разгляд згаданага праекту Закону запланаваны на студзень 2001 года. Просім Вас тэрмінова прыняць адпаведныя захады па прадухіленні зацвярджэння заканадаўчага акту, неадпавядаючага Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

З павагай

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Трусаў.**

**"27" снежня 2000 г. № 806**

**Спадарыні Бачковай Г. А.**
**першаму намесніку дырэктара Нацыянальнага цэнтра**
**законатворчай дзейнасці пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь**

**Паважаная спадарыня Бачкова!**

Таварыства беларускай мовы ўважліва азнаёмілася з прапанаваным Вашым Цэнтрам праекту Закону Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" і Вашым абгрунтаваннем аб неабходнасці прыняцця гэтага закона. У сваім абгрунтаванні Вы сцвярджаеце, што: "Прадстаўлены праект Закона прадугледжвае: ... усталяванне роўнага прававога статусу беларускай і рускай мовам навучання і выхавання". На вялікі жаль, Вы ўводзіце ў зман дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, бо прапануемы праект Закона праследуе цалкам супрацьлеглыя мэты – не забяспечыць роўны прававы статус моў, а ліквідаваць беларускамоўнае навучанне і выхаванне на тэрыторыі Беларусі.

Так, артыкул 5 главы I праекту Закону гаворыць што: "Грамадзяне маюць права на выбар мовы навучання і выхавання ў межах магчымасцяў, што прадастаўляюцца сістэмай адукацыі". Нагадаем Вам, што згодна з артыкулам 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання. Так што ж гарантуе нам прапанаваны Вашым Цэнтрам праект Закону? У главе 4 "Дашкольная адукацыя" нават не ўзгадваецца гэтае права выбару, няма гарантыяў атрымання дашкольнага выхавання на дзяржаўнай беларускай мове. Ужо на сённяшні дзень у г. Мінску практычна адсутнічаюць дзіцячыя дашкольныя ўстановы, дзе б забяспечвалася права выхавання на беларускай мове. Такім чынам, сістэмай адукацыі створаны ўмовы, пры якіх немагчыма атрымаць выхаванне на беларускай мове!

Глава 5 праекту Закону "Агульная сярэдняя адукацыя" не ўтрымлівае гарантый атрымання сярэдняй адукацыі на беларускай мове. Ужо зараз беларускамоўныя жыхары г. Мінска і ўсіх абласных цэнтраў вымушаныя вазіць сваіх дзяцей праз увесь горад, каб даць сярэднюю адукацыю па-беларуску, а тысячы грамадзян, насуперак сваёй волі, вымушаныя аддаваць дзяцей у рускамоўныя школы, бо сістэма адукацыі стварыла ўмовы, пры якіх амаль немагчыма атрымаць адукацыю на беларускай мове.

Главы 6 і 7 праекту Закону "Прафесійна-тэхнічная адукацыя" і "Сярэдняя спецыяльная адукацыя" таксама не ўтрымліваюць аніякіх гарантыяў атрымання гэтых відаў адукацыі па-беларуску. Нам невядома ні адна прафесійна-тэхнічная або сярэдняя спецыяльная навучальная ўстановы ў Рэспубліцы Беларусь, дзе б сістэма адукацыі стварыла магчымасць навучацца на беларускай мове.

Глава 8 праекту Закону "Вышэйшая адукацыя" не гарантуе атрымання вышэйшай адукацыі на беларускай мове. Як вядома, Таварыства беларускай мовы ўжо на працягу 4-х гадоў дамагаецца ад Міністэрства адукацыі стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэту і адкрыцця беларускамоўных плыняў у ВНУ, але дагэтуль у Беларусі няма аніводнай вышэйшай навучальнай установы, дзе б былі створаныя ўмовы для атрымання адукацыі на беларускай мове.

Такім чынам, падрыхтаваны Вашым Цэнтрам закон прама вызначыў ролю беларускай мовы ў сістэме адукацыі Рэспублікі Беларусь у артыкуле 5 главы 1: "Па ўзгадненні з Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь могуць стварацца дашкольныя або агульнаадукацыйныя школы, у якіх адукацыйны працэс ажыццяўляецца на мове нацыянальнай супольнасці". Мы вельмі "рады", што тая норма Закону аб адукацыі, якая раней тычылася нацыянальных меншасцяў скіравана на карэнную нацыю Рэспублікі Беларусь, якая згодна з дадзенымі апошняга перапісу насельніцтва складае 81,6% ад агульнай колькасці насельніцтва.

Напэўна ў Вашым Цэнтры невядома інфармацыя пра тое, што 86,5% беларусаў вызначаюць сваёй роднай мовай беларускую, а 36,7% (прыкладна 3.686.500) грамадзян Беларусі карыстаюцца беларускай мовай у штодзённым жыцці. А можа Вы забыліся, на якое пытанне адказваў беларускі народ падчас рэферэндуму 1996 года "Ці выступаеце Вы за роўны статус рускай мовы з беларускай".

Прапануем, тэрмінова адклікаць праект Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" з Палаты прадстаўнікоў і перапрацаваць яго згодна з практыкай білінгвістычных краін Бельгіі, або Фінляндыі, а таксама тэрмінова зрабіць беларускамоўны варыянт праекту Закону.

З павагай

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**

# 2001-ШЫ ГОД АД НАРАДЖЭННЯ ІСУСА ХРЫСТА
# 2001-ШЫ ГОД АД ПАЧАТКУ ХРЫСЦІЯНСКАЙ ЭРЫ

# ПЛАН

## асноўных мерапрыемстваў Саюза беларускіх пісьменнікаў на 2001 год

### I

**Пасяджэнні рады і творчых секцый і камісіі – штоквартальна на працягу года. У ліку пытанняў для абмеркавання:**

1. Прыём у сябры СБП.
2. Зацвярджэнне плана асноўных мерапрыемстваў СБП на 2001 год.
3. Вылучэнне твораў на атрыманне Літаратурных прэмій СБП.
4. Аб узмацненні ролі абласных аддзяленняў СБП у выхаванні маладой літаратурнай змены.
5. Прапаганда беларускай мастацкай літаратуры ў краіне – задачы і арганізацыйна-творчыя захады па яе разгортванню (сумесна з праўленнем Беллітфонду).
6. Малады пісьменнік і сучасны літаратурны працэс (Аб выніках працы камісіі СБП па рабоце з маладымі аўтарамі).
7. Літаратура братніх славянскіх краін – стан творчага супрацоўніцтва, перспектывы і задачы ўмацавання літаратурных узаемасувязяў.
8. Літаратурныя музеі Беларусі – аналіз дзейнасці і захады па ўмацаванню іх матэрыяльнай базы. (Разам з дырэкцыяй Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў).
9. Абмеркаванне планаў выпуску літаратуры выдавецтваў "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва".
10. Абмеркаванне справаздач і рабочых планаў літаратурных выданняў "Полымя", "Маладосць", "Неман" і інш.

### II

**Творчыя семінары, канферэнцыі, пасяджэнні "Круглага стала", асобныя мерапрыемствы творчай дзейнасці Саюза пісьменнікаў**

| | |
|---|---|
| 1. Літаратурныя ўзаемасувязі: правядзенне творчага вечара, прысвечанага народнаму паэту Беларусі Максіму Танку ў Маскве. СБП сумесна з Міжнародным супольніцтвам пісьменніцкіх Саюзаў (Адказны Я. Каршукоў). | Студзень |
| 2. Правядзенне ўрачыстых мерапрыемстваў у Мінску і на радзіме народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна ў сувязі з яго 80-годдзем. (Адк. Н. Гальпяровіч, В. Ткачоў). | Студзень |
| 3. Сустрэча з маладымі літаратарамі Браслаўшчыны: абмеркаванне альманаха "Азёрная Браслаўшчына". (Адк. З. Вішнёў, М. Мятліцкі). | Люты |
| 4. Навукова-папулярная літаратура для дзяцей і гісторыя Беларусі – разам з выдавецтвам "Юнацтва". (Адк. Я. Каршукоў). | Сакавік |
| 5. Падвядзенне вынікаў Міжнароднага конкурсу вершаваных твораў навучэнцаў пачатковай і сярэдняй школ да сусветнага дня паэзіі. (Адк. З. Вішнёў). | Сакавік |
| 6. Правядзенне штогадовага семінару маладых літаратараў у Доме творчасці "Іслач" – сумесна з Дзяржаўным камітэтам па друку РБ і Камітэтам па правах моладзі РБ. (Адказны: А. Масарэнка, З. Вішнёў). | Сакавік |
| 7. "Непрафесійная літаратура" – абмеркаванне паэтычных кніжак, выдадзеных недзяржаўнымі выдавецтвамі краіны. (Адк. З. Вішнёў). | Красавік |
| 8. Чалавек і яго духоўны свет у сучасным беларускім апавяданні. Сумеснае пасяджэнне секцый крытыкі і прозы. (Адк. Я. Каршукоў, М. Мушынскі). | Красавік |
| 9. Падрыхтоўка і выданне публіцыстычна-мастацкай кнігі "Наша армія", прысвечанай Узброеным сілам РБ. (Адк. Я. Каршукоў, Ул. Глушакоў). | Студзень - снежань |
| 10. "Сто гадоў – сто асоб" - падрыхтоўка і выданне кнігі нарысаў пра знакамітых беларусаў за апошняе стагоддзе. (Адк. Я. Каршукоў, Ул. Глушакоў). | Студзень - снежань |
| 11. "Літаратурная крытыка – здабыткі, пралікі, праблемы". Разам з Інстытутам літаратуры нацыянальнай Акадэміі навук. (Адк. С. Лаўшук, Я. Каршукоў). | Травень |
| 12. Падвядзенне вынікаў рэспубліканскага літаратурнага конкурсу на лепшы паэтычны твор, прысвечаны памяці Яўгеніі Янішчыц. (Адк. З. Вішнёў). | Травень |
| 13. Правядзенне рэгіянальных трохдзённых семінараў маладых пісьменнікаў у Гомелі, Берасці, Віцебску. (Адк. З. Вішнёў, А. Масарэнка) | Травень–ліпень |
| 14. Міжнародны семінар літаратараў-перакладчыкаў у Менску. (Адк. А. Масарэнка, І. Чарота). | Верасень |
| 15. Публіцыстыка на старонках часопісаў "Полымя", "Маладосць", "Нёман" і штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва". (Адк. Каршукоў, У. Глушакоў). | Верасень |
| 16. Аднадзённы семінар сакратароў абласных аддзяленняў СБП. (Адк. Н. Гальпяровіч, І. Качаткова). | Кастрычнік |
| 17. Семінар маладых літаратараў-воінаў Узброеных Сіл РБ – разам з Цэнтральным Домам афіцэраў і газетай "Во славу Родины". (Адк. Я. Каршукоў, А. Масарэнка). | Лістапад |
| 18. Падрыхтоўка і выданне анталогіі славацкага апавядання. (Адказны: Я. Каршукоў). | Студзень – снежань |
| 19. Падрыхтоўка і выданне зборніка аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў – СБП сумесна з Дзяржаўным камітэтам па друку РБ. (Адк. Т. Галіна). | Студзень – снежань. |

### III

**Рэспубліканскія літаратурныя святы**

| | |
|---|---|
| 1. Купалаўскае свята паэзіі ў Вязынцы. | Ліпень |
| 2. Свята, прысвечанае Максіму Багдановічу, у Ракуцёўшчыне. | Травень |
| 3. Штогадовае свята "Каласавіны" на радзіме "Якуба Коласа". | Лістапад |
| 4. Літаратурныя чытанні: | |
| - на Гомельшчыне: да 80-годдзя Івана Мележа. | Люты |
| - у Шчучыне: да 125-годдзя Цёткі. | Ліпень |
| - у Горадні: да 160-годдзя Элізы Ажэшкі. | Чэрвень |

### IV

**Літаратурныя вечарыны, юбілеі пісьменнікаў у Доме літаратара**

**СТУДЗЕНЬ**

| | |
|---|---|
| 1. Да 65-годдзя Анатоля Кудраўца. (Вялікая зала). | 4-га студзеня |
| 2. Да 65-годдзя Івана Сіпакова. (Вялікая зала). | 16-га студзеня |
| 3. Да 80-годдзя Івана Шамякіна. (Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы) | 30-га студзеня |

**ЛЮТЫ**

| | |
|---|---|
| 1. Да 80-годдзя Івана Мележа. (Вялікая зала). | 8-га лютага |
| 2. "Святальны подых дня..." Паэтычная вечарына да Дня Святога Валянціна. (Вялікая зала). | 13 лютага |

**САКАВІК**

| | |
|---|---|
| 1. Да 70-годдзя Паўла Міско. (Вялікая зала). | 15-га сакавіка |
| 2. Сусветны дзень паэзіі. Вечарына маладых літаратараў. (Вялікая зала). | 21-га сакавіка |

**КРАСАВІК**

| | |
|---|---|
| 1. Да 55-годдзя Валянціны Коўтун. (Вялікая зала). | 10-га красавіка |
| 3. Да 80-годдзя Міколы Ермаловіча. (Вялікая зала). | 26-га красавіка |

**ТРАВЕНЬ**

| | |
|---|---|
| 1. Да 70-годдзя Алега Лойкі. (Вялікая зала). | 3-га траўня |
| 2. Сінтэз мастацтваў. (Вялікая зала). | 15-га траўня |

**ЧЭРВЕНЬ**

| | |
|---|---|
| 1. Да 160-годдзя Элізы Ажэшкі. (Дом дружбы). | 7-га чэрвеня |

**ЖНІВЕНЬ**

| | |
|---|---|
| 1. Да 65-годдзя Генадзя Бураўкіна. (Вялікая зала). | 28-га жніўня |
| 2. Да 95-годдзя Сяргея Новіка-Пяюна. (Вялікая зала). | 30-га жніўня |

**ВЕРАСЕНЬ**

| | |
|---|---|
| 1. Да 100-годдзя Віталя Вольскага. (Вялікая зала). | 4-га верасня |

**КАСТРЫЧНІК**

| | |
|---|---|
| 1. Да 70-годдзя Ніла Гілевіча. (Вялікая зала). | 2-га кастрычніка |
| 2. "Маладыя галасы". Вечарына маладых літаратараў. (Вялікая зала). | 11-га кастрычніка |

**ЛІСТАПАД**

| | |
|---|---|
| 1. Да 70-годдзя Анатоля Вярцінскага. (Вялікая зала). | 20-га лістапада |
| 2. Вечарына маладых літаратараў. "Каліна зімы". (Вялікая зала). | |

**СНЕЖАНЬ**

| | |
|---|---|
| 1. Да 110-годдзя Максіма Багдановіча. (Вялікая зала). | 6-га снежня |
| 2. Навагодняя ялінка. (Вялікая зала). | 27-снежня |

# Век яго доўжыцца

Ён не толькі пісьменнік – паэт, празаік, драматург. Як піша ў "Звяздзе" Ларыса Цімошык, Уладзімір Караткевіч быў з'явай не толькі і не столькі беларускай, колькі еўрапейскай. Ён меў гонар, што беларус. Ганарыўся гісторыяй свайго народа, у якой атрымалі рэальнае ўвасабленне многія ідэі Караткевіча.

Уся Беларусь адзначыла 70-годдзе свайго знакамітага сына, у тым ліку і Шклоўшчына. Мясцовая арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сумесна з раённай бібліятэкай напярэдадні даты нараджэння пісьменніка ладзілі сумесна ўрачыстае пасяджэнне. Яго адкрыла бібліятэкар Тацццяна Афанасенка.

Са змястоўным паведамленнем перад прысутнымі выступіла настаўніца беларускай мовы і літаратуры 1-й сярэдняй школы Н. В. Чупрынская. Яна ахарактарызавала Караткевіча як вялікага сына беларускага народа, першаадкрывальніка многіх гістарычных старонак Беларусі, як чалавека-легенду, які меў непаўторны талент. Быў палымяным публіцыстам, адраджэнцам, як у свой час Францішак Скарына.

Як пісьменнік валодаў усімі відамі і жанрамі літаратуры, быў артыстычны, здымаўся ў кіно, прыгожа спяваў. Яму былі ўласцівы здольнасці мастака. Маляваў ілюстрацыі да сваіх твораў.

Далей Ніна Віктараўна зазначыла, што радзіма Уладзіміра Караткевіча – Орша. Тут ён нарадзіўся 26 лістапада 1930 года. Маці Надзея Васільеўна была педагогам, настаўніцай для свайго сына. Сям'я будучага пісьменніка мела багатую бібліятэку, сабраную яго братам і сястрой. Вядома, яна дапамагла сфармавацца яму як паэту. Дарэчы, Валодзя свой першы верш напісаў у шасцігадовым узросце, а надрукаваў першы верш "Машэка" ў "Полымі" ў 1955 годзе.

Вайна прынесла хлопцу шмат пакут і перажыванняў. Яго лёс склаўся так. Што ён апынуўся ў інтэрнаце. Збегаў з яго. Нарэшце знайшоў бацькоў у Арэнбурзе. Потым пэўны час жыў у Кіеве. Пасля вызвалення Беларусі вярнуўся на радзіму, дзе закончыў школу.

Потым вучоба ў Кіеўскім універсітэце. Тут быў прызначаны ў аспірантуру, дзе вывучае падзеі паўстання, якое мела месца ў 1863 годзе супраць царскага рэжыму. Але вучобу ў аспірантуры не закончыў. Адпраўляецца ў Маскву на літаратурныя курсы.

Напрыканцы яго кароткага жыцця не стала маці, якая падтрымлівала ў цяжкія моманты. А неўзабаве цяжка захварэла і раптоўна памерла жонка, што паскорыла і яго смерць. Уладзімір Сямёнавіч памёр 25 ліпеня 1984 года. Паводле тастаманту пісьменніка на яго магіле ўстаноўлены палявы валун з аўтографам Караткевіча і адбіткам калосся.

За сваё кароткае жыццё (54 няпоўныя гады) Уладзімір Караткевіч стварыў багатую літаратурную спадчыну – раманы, аповесці, паэтычныя творы. Па яго творах "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", "Чорны замак Альшанскі", "Дзікае паляванне караля Стаха" пастаўлены фільмы. Значнае месца ў яго творчасці займае апошні паэтычны зборнік "Быў, ёсць, буду".

Потым вучні 8-га класа СШ № 1 Каця Зайцава, Юля Буткова, Ваня Крывашэеў прачыталі вершы Уладзіміра Караткевіча. А адзінаццацікласнікі Оля Мароз і Дзяніс Падскробкін выканалі сцэнку з п'есы "Кастусь Каліноўскі".

У чытальнай зале была наладжана выстава, прысвечаная юбілею Караткевіча. Яе прадставіла бібліёграф Людміла Сафонава.

На ўрачыстасці сваімі ўражаннямі пра творчасць У. Караткевіча падзяліліся старшыня раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Аляксандр Грудзіна, а таксама старшыня абласной арганізацыі Міхась Булавацкі, ксёндз касцёла Пятра і Паўла Аляксандр Багдановіч і іншыя прыхільнікі творчасці пісьменніка.

*Л. Анціпенка,*
*(Шклоўская раённая газета "Ударны фронт").*

# Шчодрык-Шчадрэц-Шчодра-Гагатуха-Конікі

--разнастайныя рэгіянальныя назвы сустрэчы Новага году па юліянскаму календару з 13 на 14 студзеня. Ішоў ужо другі тыдзень калядаванняў – песенных тэатралізаваных абходаў гаспадарскіх двароў са святочнымі калядкамі. Гэта былі віншавальныя велічальна-гімнічныя песні, пабудаваныя на славеснай магіі – веры, што жаданы гаспадару гіпербалізаваны поспех у сям'і і гаспадарцы збудзецца, бо пасля кожнага радка былі магічныя прыпевы "Шчодры вечар, святы вечар!", роля якіх аналагічна хрысціянскаму "Амінь!".

Шчодрыку на першым калядным тыдні папярэднічалі Посная куцця (6 студзеня), Каляды (7 студзеня), Зорка, Каза, Ваджэнне мядзведзя. З 7 па 18 студзеня (апошняе называлі яшчэ Вадзянымі калядамі) на паўночным захадзе Беларусі моладзь ва ўсе вечары да ранішняй зоркі ладзіла вясельныя камедыі – "Жаніцьбу Цярэшкі".

Шчодра была кульмінацыяй 2-тыднёвых тэатралізаванаг карнавальных зімовых святак. У наш час яе можна пабачыць ва ўсёй самабытнасці, мастацкай шматфарбнасці і бытавой прыроднай натуральнасці у адным з самых старажытных цэнтраў Тураўскай зямлі – Давыд-Гарадку, 900-годдзе якога было адзначана шырокай грамадскасцю 7 кастрычніка 2000 года. Да дваццаці тэатралізаваных гуртоў шчадроўнікаў абыходзяць тут у наш час гаспадаркі са спевамі шчадровак.

Вось самая папулярная з іх:

*Добры вечар табе, пане-гаспадару, радуйся!*
*Ой, радуйся, земля, год новы нарадзіўся!**
*Засцілайце столы новы абрусамі.*
*Кладзіце пірогі з ярае пшаніцы*
*Бо прыйшлі да цябе тры святочкі ў госці.*
*А першае свята – святыя Каляды.*
*А другое свята – святая Шчодра.*
*А трэцяе свята – свята Вадохрышча.*
*Хай святкуе з вамі ўся ваша радзіна, радуйся,*
*Ой, радуйся, земля, год новы нарадзіўся!*

**Прыпеў "Радуйся, ой, радуйся, земля, год Новы нарадзіўся!" спяваецца пасля кожнага радка.*

Тэатралізаваныя шчадроўныя прадстаўленні ладзіліся вакол маскі-сімвала ўрадлівасці нівы – Казы, а на тураўскіх землях – вакол вершніка-коніка, у якім ёсць і водгукі дагістарычнага прыручэння дзікіх жывёл і гістарычнай эпохі вялікага перасялення плямёнаў. Лейтматывам першых былі карагоды з Казой ("Дзе каза рогам – там жыта стогам"). А вось найбольш папулярная шчадроўка з конікам:

*Ой, там, пад шчадром Васілька з кацём,*
*Ой, грай, мора, радуйся, зямля!**
*На кані сядзіць, дудачку дзяржыць.*
*У дудачку іграе, слічна спявае.*
*Прыйшла да Васіля маманька яго:*
*- Ой, сынку, сынку, хто цябе вучыў,*
*Хто цябе вучыў у дудачку іграці?*
*У дудачку іграці, слічна спяваці?*
*- Была ў караля адна дудачка.*
*Йна навучыла ў дудачку іграці.*
*У дудачку іграці, слічна спяваці,*
*Ой, грай, мора, радуйся зямля!*

**Спяваецца пасля кожнага радка.*

Рабілі Коніка так. На калок вешалі два рэшаты, паміж якімі сядзелі хлопцы. Затым спераду прычаплялі конскую галаву, а ззаду – хвост з валосся ці ільну. Хлопцы пакрываліся зверху посцілкай.

У другім, больш распаўсюджаным варыянце, на поясе вершніка рабілі абруч, пакрывалі яго посцілкай, якая закрывала ногі вершніка. Усё астатняе рабілі аналагічна. У Давыд-Гарадку Конікаў было два: дарослы (вельмі часта ў выглядзе цыгана) і хлопчык. Дарэчы, на ўсходняй Гомельшчыне Шчодра вядома як толькі жаночы абрад, а на Заходнім Палессі – як дзявочы. Гагатухай з-за характэрнага прыпеву "Го-го-го!" свята называлі беларусы Беласточчыны.

**Карагод-гульня "Конік"**

Галаву коніка рабілі на кійку як вясёлую, прыгожую маску, на якой ён як бы іржаў. Хлопец-конік трымаў яго паміж ног. Посцілка пакрывала хлопца з нагамі, ззаду прычэплівалі доўгі конскі хвост і было поўнае ўражанне, што перад намі вершнік. Часта іх было два – дарослы і маленькі.

Конік ішоў па вуліцы і весела, з гігіканнем запрашаў шчадраваць. Потым ён узначальваe гурт шчадроўнікаў у абходзе дамоў: весяліць у карагодным коле, бяжыць галопам па вуліцы, выбрыквае перад хатамі, трасе грываю, круціць хвастом, прысядае на заднія ногі, высока задраўшы галаву, падае знямоганы Гурт шчадроўнікаў вядзе дыялогі з гаспадарамі – просіць яму "мерку аўса", грошы на авёс, піці-есці даці.

Вакол коніка водзяць шчадроўныя карагоды: то сходзяцца да цэнтра кола, прысядаюць ля коніка, а ён, весела заржаўшы, узвышаецца над імі, то конік у цэнтры кола скача свой танец, а карагоднікі плясканнем ствараюць яму рытм, прыпеўваюць, самі ўслед за ім скачуць, разыходзяцца і зыходзяцца ў карагодзе. Адна з карагодзіц падыходзіць да стомленага коніка, прыгаворваючы ласкава гладзіць яго па грыўцы, бярэ за вуздэчку і ставіць першым у карагодзе. Стаўшы ўслед, адзін за адным, удзельнікі паўтараюць хвалевыя рухі (вілюжкі па-мясцоваму) і ўсе разам ідуць да гаспадара, кланяючца яму з надзеяй на добрую ахвяру: хлеб, сала, каўбасу, грошы, чарку. Удзячна спяваюць хатнім велічальныя песні-ідэалізацыі, адорваюць вяселлем, смехам, гумарам, жартамі, скокамі, танцамі, музыкай.

Асноўны крок карагоднага гурта: пачынаючы з правай нагі ўсе ідуць простым крокам у рытм песні ці танца;

- калі ідуць у цэнтр да коніка, робяць крок-падскок з правай нагі і таксама разыходзяцца ад коніка;

- калі ідуць за конікам, робяць крок-падскок з вынасам нагі ўбок і пляскаючы ў далоні;

- рухі коніка ў танцы – ганарлівыя, дынамічныя, вясёлыя, з гумарам.

Самай прыгожай часткай такіх карагодаў з'яўляюцца песні з вобразам коніка, якіх бясконца многа сярод шчадровак і нават сярод казацкіх, накшталт наступнай:

*Ой, косю, мой косю,*
*Косю вараненькі,*
*Прадам цябе, косю,*
*За талер драбненькі.*

*Не будзеш там есці*
*Шаўковай травіцы,*
*Не будзеш там піці*
*Крынічнай вадзіцы.*

*Цябе будуць біці,*
*Косю, батагамі,*
*А я буду плакаць*
*Горкімі слязамі.*

*А хто ж табе, косю,*
*Там грыўку расчэша,*
*А хто ж табе, косю,*
*Сардэнька пацеша.*

*Ой, косю, мой косю,*
*Косю вараненькі,*
*Няхай прападае*
*Талер бяленькі.*

*На талер драбненькі*
*Я не разжывуся,*
*З табою, мой косю,*
*Я не разлучуся.*

***Васіль Ліцьвінка.***

# Нашыя славутыя землякі

Ужо восем гадоў дзейнічае ў ЗША дабрачынны фонд "Ethnik Voice of America" пад кіраўніцтвам нашай зямлячкі, беларускі, спадарыні Ірыны Каляды-Смірноў.

Нарадзілася спадарыня Ірына ў вёсцы Падкасоўе Навагрудскага р-ну. Лёс яе склаўся так, што яшчэ дзяўчынаю апынулася яна на чужыне. І хоць цяжка было абсталёўвацца на новым месцы, не парывала яе сям'я духоўных сувязяў з Бацькаўшчынай, разам з іншымі беларусамі адбудоўвала ў эміграцыі нацыянальнае жыццё.

Дыяспара таму і завецца дыяспараю, што з'яўляецца працягам нацыі ў замежжы, непарываючы з ёй кроўнае і духоўнае повязі, і нават час гэтаму не перашкаджае. Таму ў 1992 годзе, калі прыехала сп. Ірына пасля доўгага растання на Бацькаўшчыну, вельмі балюча, як сваё асабістае гора, успрыняла яна праблемы Чарнобыльскай Беларусі. З таго часу наша суайчынніца вырашыла, што дапамога Беларусі – яе абавязак. Яна ўзняла гэты Крыж і нясе дагэтуль. Больш таго, ствараючы дабрачынны фонд у ЗША, змагла яна знайсці і згуртаваць вакол сябе аднадумцаў, людзей самых розных нацыянальнасцяў, якія бязвыплатна, на дабрачыннай аснове, у вольны ад працы час, прыходзяць працаваць у Фондзе.

Спачатку Фонд накіроўваў у Беларусь шматлікія кантэйнеры з гуманітарнай дапамогай, потым пачаў адпраўляць дзіцячыя групы на аздараўленне. Прыкладна 300 дзяцей з Беларусі кожны год атрымоўваюць магчымасць, дзякуючы спадарыні Ірыне і яе паплечнікам, адпачываць і аздараўляцца ў Славеніі, Балгарыі і іншых краінах. Дапамагае Фонд і асобным сем'ям.

Фонд "Ethnik Voice of America" супрацоўнічае ў Беларусі з некалькімі арганізацыямі, ў тым ліку і з нашай – Міжнародным грамадскім аб'яднаннем "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Але спадарыня Ірына і яе калегі заўсёды адкрытыя і для новых партнёраў, бо іх асноўная задача – дапамагчы Беларусі і беларусам.

Супрацоўніцтва, МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" з Фондам сп. Ірыны пачалося ў 1999 г. Спадарыня Каляда – Смірноў дапамагла нам адправіць дзіцячую групу на аздараўленчы адпачынак ў Турцыю. Тады ж, у 1999 г., звярнуліся ў нашу арганізацыю бацькі. Сашы Гушчы, дзяўчыны, якая немаўляткам шмат пацярпела ад пажару і якой патрабаваўся шэраг аперацый. Дамоўленасць са шпіталем у ЗША ўжо існавала, але трэба было купіць яшчэ білеты. Спадарыня Ірына і яе Фонд адгукнуліся адразу, аплацілі білеты, а зараз узялі на сябе і фінансаванне аперацый.

Улетку 2000 года "Бацькаўшчына" накіравала пры падтрымцы спадарыні Ірыны і яе Фонду ўжо дзве групы дзяцей ў Балгарыю. Працуючы ў гэтым кірунку з Фондам "Ethnik Voice of America", мы прапаноўвалі некалькі варыянтаў аздараўленчага адпачынку, але выбірала спадарыня Ірына заўсёды самы найлепшы, каб беларускія дзеці змаглі атрымаць усё тое, што ўваходзіць у паняцце "аздараўленне" – экалагічна чыстае і вітаміннае харчаванне, паўднёвае сонца, мінеральныя басейны, цёплае мора, увагу да сваіх патрэбаў і сапраўды добрыя сардэчныя адносіны. Больш таго, цікавіла спадарыню Ірыну і тое, каб дзеці пазнаёміліся з краінай, дзе адпачываюць, з яе звычаямі і традыцыямі, каб для маленькіх беларусаў былі наладжаныя экскурсіі і цікавыя паездкі.

Але не толькі ў гэтым кірунку бачым мы падтрымку і клопат спадарыні Ірыны. У 1999 г. Беларускі нацыянальны грамадскі арганізацыйны камітэт "Беларусь – 2000", створаны па ініцыятыве МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", распрацаваў Праграму "Беларусь - 2000" у межах якой было падрыхтавана "Слова да беларускага народа. Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы". Гэтыя матэрыялы сталі вынікам працы многіх людзей і вартыя таго, каб увасобіцца ў кнігу. Спадарыня Ірына прапанавала нам дапамогу ў іх выданні. І цяпер дзякуючы ёй мы рыхтуем кнігу "Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы", плануем выдаць яе перад Трэцім з'ездам беларусаў свету.

Не пакідае без ўвагі спадарыня Каляда-Смірноў ніводную праблему нашай арганізацыі. Самай першай адгукнулася яна на цяжкае становішча, у якое трапіла "Бацькаўшчына" пасля абрабавання. У нас скралі аргтэхніку якраз напярэдадні шматлікіх мерапрыемстваў, планаваных нашай арганізацыяй.

Супрацоўніцтва з гэтай жанчынай і яе Фондам не толькі вялікая падтрымка для нас, але і вялікая адказнасць. Жыццё Ірыны Каляда-Смірноў, яе адносіны да праблемаў і цяжкасцяў іншых людзей, ахвярная праца на карысць Бацькаўшчыны з'яўляюцца для нас прыкладам і тым узроўнем, на які мы павінны раўняцца.

***Алена Макоўская.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 3. 01. 2001 г.
Наклад 3200 асобнікаў. Замова № 1
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 215 руб., 3 мес.- 645 руб.
***Кошт у розніцу:*** 55 руб.